Год VII. Сакавік № 3 (76).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 3:



**ГАМАДЗЯНЕ!** Да гэтага нумару далучаем „przekazy razrachunkowe“, якімі яшчэ раз просім усіх хто дагэтуль не прыслаў падпіскі на „Шлях Моладзі“ за 1935 г. зрабіць гэта зараз-жа, бо ў працiўным выпадку высылка ім „Шляху Моладзі“ будзе стрымана ўжо ад наступнага нумару. Тых, што аплацілі падпіску акуратна, просім атрыманыя „przekazy“ перадаць сваім знаёмым і заахвоціць іх выпісваць „Шлях Моладзі“.

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Ґ, ґ. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл. на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле умовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Сакавік 1935 г. | № 3 (76). |
|---|---|---|

## 25 сакавіка.

Ёсьць сьветлы дзень адзін, Краіна,
Ў Тваім нярадасным жыцьцю.
Той дзень — калі Ты абвясьціла
Сама Рэспубліку сваю.

Ў той дзень, —
Ў нястрыманым паходзе,
На волю рваўся крыгалом.
Ў той дзень —
Ў Тваім народзе
Душа забілася жыцьцём!

З няволі цяжкай і адвечнай
І Ён — адроджаны—паўстаў,
І звон — магутны, звон на веча
Ізноў званіў, —
Ізноў склікаў!

Хоць гэты дзень пагас ў тумане;
Ты зноў стаптаная ляжыш
І будні шэрыя над намі,
А на плячох — пакоры крыж.

І хоць ізноў Табе, Краіна,
У твар плюе на'т родны сын,
А ўсё-ж — ў той дзень Ты ускрасіла
Свой дух!
І нарадзіла
Уласнай волі чын!

Мы гэты сьветлы дзень ўспамінам,
Сьвяткуем радасна што-год.
Прывет Табе!
Прывет — Краіна!
Мы моцна верым, што ня згінем,
Мы — Твой разбуджаны народ.

**М. Машара.**

# 17-тыя ўгодкі Вялікага Акту.

*(25.III.1918—25.III.1935).*

Незалежнасьць—гэта слова, да ажыцьцяўленьня і асягненьня якога імкнуцца ўсе людзі і ўсе народы. Людзі і народы, якія ня могуць самі сваім жыцьцём кіраваць, якія ня могуць быць гаспадарамі свае ўласнасьці, людзі, якія паняволены, — зьяўляюцца найбольш пакрыўджанымі і нешчасьлівымі.

Дык і ня дзіва, што і Народ беларускі, каторы так доўга зносіў няволю, пры першай магчымасьці — пасьля сусьветнае вайны і расейскае рэвалюцыі — ўсімі сіламі кінуўся гэту волю здабываць, абвяшчаючы ў Менску 25 сакавіка 1918 году Беларусь Вольнай і Незалежнай.

Вялікі гэты Акт не ўдалося, нажаль, Беларускаму народу ўтрымаць. Варожыя сілы здушылі найвышэйшыя парывы Беларусаў, падзяліўшы нашу бацькаўшчыну на часткі.

Такім чынам Акт 25 сакавіка 1918 г. стаўся толькі найвялікшым сымбалем Беларускага народу і яго пуцяводнай зоркай у далейшай жыцьцёвай падарожы.

Дзень 25 сакавіка, гэта дзень вялікага чыну Беларускага народу, гэта дзень, які на заўсёды запісаны залатымі літарамі ў гісторыі Беларусі. Дзень 25 сакавіка — гэта Беларускае Народнае Сьвята, якое з году ў год, што-раз шырэй сьвяткуем.

Сёлетняе сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, як і ў мінулыя гады, найбольш урачыста адбылося ў Вільні, дзе гуртуецца цэнтр беларускага нацыянальнага адраджэнска-вызвольнага руху.

Сьвяткаваньне гэта пачалося тут 24 сакавіка, а гадз. 10 раніцай у кясьцеле сьв. Мікалая, дзе кс. др. Ст. Глякоўскі адправіў урачыстую Імшу, а кс. В. Гадлеўскі сказаў адпаведнае да ўрачыстасьці казаньне, заклікаючы ўсіх Беларусаў імкнуцца да праўды ў жыцьці грамадзкім і духовым. праз якую Беларускі народ дойдзе да сьветлых сваіх ідэалаў. — На набажэнстве гэтым апрача Беларусаў былі такжа прадстаўнікі грамадзянства літоўскага.

25 сакавіка а гадз. 10 раніцай адбыўся малебен у Пятніцкай царкве. Адправіў малебен і пасьля казаньне сказаў а. Н. Кульчыцкі.

Увечары 25 сакавіка, у прыгожа прыбранай і перапоўненай публікай залі БІГіК адбылося ўрачыстае паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту з учасьцем гасьцей. Паседжаньне адчыніў і пачаў кароткай прамовай старшыня К-ту грам. Я. Пазьняк, на якога прапазыцыю прысутныя ўшанавалі памяць памёршых змагароў за незалежнасьць Беларусі паўстаньнем з мясцоў і хвілінай маўчаньня. Пасьля мгр. Я. Шутовіч прачытаў рэфэрат на тэму: „На-

род і дзяржава", у якім даказваў дасьпеласьць Беларускага народу да самастойнага дзяржаўнага жыцьця; пры канцы быў прачытаны верш М. Машары п. н. „25 сакавіка", які зьмяшчаем у гэтым нумары „Шл. Мол." на 1 бачыне.

Пасьля гэтага віталі Беларусаў у дзень народнага сьвята: прадстаўнік Літоўцаў, старшыня Тымчасовага Літоўскага К-ту ў Вільні грам. К. Сташыс, жадаючы найхутчэйшай рэалізацыі Акту 25-га сакавіка, і прадстаўнік ад Украінцаў у Вільні, студ. С. Павлыш, які закончыў сваю прыгожую прамову клічам: „Няхай жыве Беларускі народ, няхай жыве незалежнасьць і няхай жыве Беларуская Дзяржава!" —

Абедзьве прамовы прысутныя прынялі гучнымі воплескамі. — Далей сэкрэтар БНК-ту грам. Ул. Казлоўскі прачытаў наступныя прывітальныя пісьмы і тэлеграмы: 1) ад Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі В. Захаркі з Чэхаславаччыны, 2) ад Беларускае Рады ў Празе Чэск., 3) Беларускага Т-ва „Беларуская Хата" ў Рызе (Латвія), 4) беларускага студэнства ў Рызе (Латвія), 5) Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі, 6) Беларускага грамадзянства і студэнства ў Бэрліне (Нямеччына), 7) Міхася Машары, 8) кс. Ул. Талочкі, 9) кс. В. Шутовіча, 10) др. Куніцкага, 11) др. Сабалеўскай, 12) б. пасла Ю. Сабалеўскага, 13) б. сэнатара В. Багдановіча і інш.

Пасьля прывітаньняў і перарыву, беларускі хор пад кіраўніцтвам інж. А. Клімовіча ўдала выканаў некалькі беларускіх песьняў, закончываючы сьвяткаваньне беларускім народным гымнам „Не пагаснуць зоркі ў небе".

У гэтым самым часе, як адбывалася паседжаньне БНК-ту, у залі беларускай гімназіі адбылося паседжаньне ТБА і інш. бел. полёнофільскіх арганізацыяў, у часе якога грам. Хв. Ільяшэвіч прачытаў рэфэрат, выражаючы ў ім паміж іншым пажаданьне імкнуцца беларусам да фэдэрацыі з Польшчай. Пасьля рэфэрату пяяў гімназіяльны хор, а вучні дэклямавалі вершы.

Так менш-больш сьвяткавалі дзень 25 сакавіка сёлета Беларусы ў Вільні. Сьвяткавалі гэты дзень Беларусы: у Латвіі, у Літве; пры гэтым Літоўскае Ковенскае Радыё надавала ў 21 гадзіне спэцыяльную аўдыцыю, прысьвячаную Беларускаму Народнаму Сьвяту. Сьвяткавалі Народнае Сьвята і Беларусы на эміграцыі. А перадусім сьвяткавалі яго беларускія сяляне на вёсцы, тут, у сучаснай Польшчы, і там, за рыжскай мяжой, у СССР. Аб гэтым трудна шырэй пісаць... Трэба адно сьцьвердзіць, што Беларускі Народ, беларускія працоўныя масы, што-раз бліжэй прыймаюць да сэрца ідэал Акту 25 сакавіка і што-раз больш імкнуцца да яго зрэалізаваньня. Праўда, імкненьні гэтыя, з прычын нам усім добра ведамых, на вонкі мала відомыя. Але тым гарачэй, тым жывей яны перажываюцца. Адно трэба цяпер усіх стараньняў накладаць, каб беларускія народныя імкненьні былі ў сэрцы

кожнага грамадзяніна, каб тыя людзі, якія стануць да аканчальнае барацьбы за Незалежнасьць Беларусі, за палепшаньне нашага быту, за праўду, былі моцнымі, сарганізаванымі, каб яны, калі трэба будзе, не шкадавалі для справы нічога.

Усё гэта справа недалёкай мо' ўжо будучыні і ёй павінна, як найбольш займацца беларуская моладзь, будучыня народу, дарастаючае маладое грамадзянства. Дык няхай-жа кожны з нас помніць, што ані хвілінкі ня можна нам марнаваць, а трэба вучыцца--дзеіць—працаваць!.. **Я. Н.**

---

Ад. Станкевіч. 12)

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## VIII. Нацыянальны элемэнт у беларускай палітычна-вызвольнай думцы.

### § 3. Беларуская Соцыялістычная Грамада.

Узбуджаную Фр. Багушэвічам думку беларускага адраджэньня і вызваленьня на прынцыпе беларускай нацыянальнасьці першы падхапіў, як мы бачылі, Ад. Гурыновіч, які для гэтай думкі рабіў што мог і што рабіць у тагочасных варунках было можна. Але за вялікая гэна думка, каб для яе зьдзейсьненьня ды маглі што значнае даканаць адзінкі. Тут ужо апрача сьведамасьці, апрача пракананьня, патрэбна так-жа арганізаваная грамадзкая сіла.

Вось-жа думка, зроджаная Багушэвічам, што да вызваленьня народу йдзецца прадусім праз нацыянальную сьведамасьць, нацыянальную культуру, хутка спаткала для сваей рэалізацыі ўжо не паасобныя адзінкі, але і арганізацыю. Першай такой арганізацыяй была Беларуская Соцыялістычная Грамада. Гісторыя яе ў агульных словах наступная.

У канцы XIX ст. ў Пецярбурзе сярод студэнтаў былі сьведамыя беларусы, якія ўжо думалі аб патрэбе беларускай нацыянальнай палітычнай арганізацыі. Адным з выдатных гэткіх беларусаў студэнтаў ад 1896 г. быў там Вацлаў Іваноўскі, цяперашні прафэсар у політэхніцы ў Варшаве. Ад 1896 г. да 1902 ужо ў Пецярбурзе існаваў кружок беларусаў студэнтаў, настроеных рэволюцыйна і соцыялістычна. Кружок гэты, хоць яшчэ тады ня меў формы арганізацыйнай, фактычна быў пачаткам, як убачым далей, Бел. Соц. Грамады[1]).

У тым-жа Пецярбурзе 1902 г. студэнская беларуская рэвалюцыйная моладзь заснавала арганізацыю пад назовам «Круг беларускай народнай прасьветы". Арганізацыя гэта займалася распаўсюджваньнем друкаваных заграніцай бела-

1) З лісту праф. В. Іваноўскага да аўтара гэтай працы 16.XI.34

рускіх друкаў, а так-жа рабіла ўжо пачаткі беларускага выдавецтва і ў Расеі. Гэта яе захадамі былі надрукаваны: „Вязанка“, „Калядная Пісанка“ і адбіты на цыклястылю часапіс „Свабода“.

Зімой таго-ж 1902 г. частка моладзі з успомненай арганізацыі заснавала «Беларускую Рэвалюцыйную Партыю». Праграмы гэта партыя ня мела. Яна займалася прадусім распаўсюджваньнем сярод беларусаў па гарадох і на сяле Багушэвічавых твораў і агулам беларускіх друкаў.

У тым-жа 1902 г. гэта партыя перахрысьцілася на „Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду“. У 1903 г. „Грамада“ адбыла першы свой зьезд, на якім пастанавіла дабівацца краёвай аўтаноміі для Беларусі, з соймам у Вільні, і перадачы сялянам бяз выкупу панскай, казённай і інш. зямлі. На гэтым зьезьдзе Рэв. Грамада пастанавіла ўрэшце назвацца „Беларускай Соцыялістычнай Грамадой“.

У студзені месяцы 1906 г. Бел. Соц. Грамада адбыла другі свой зьезд, на якім шырока была абгаворвана справа зямельная і прынята ў гэтай справе праграма соцыяльнай дэмократыі. У пытаньні палітычным зьезд пастанавіў бароцца за перабудову Расеі на асновах фэдэралізму, падчыркваючы ў першую чаргу аўтаномную Беларусь, сфэдэраваную з Літвой, Латвіяй і Украінай.

Далейшая арганізацыйная праца БСГ дзеля паліцэйскага прасьледу наперад фармальна бадай не пасунулася сусім. Затое фактычна ў нутры яе далей кіпела праца. БСГ выдавала рэвалюцыйнага і палітычнага зьместу беларускія ўлёткі і брашуры і шырыла іх сярод беларускага пролетарыяту і сялянства. Захопленае рэвалюцыйным рухам беларускае сялянства, дзякуючы працы сярод яго БСГ, засыпала першую й другую Дзяржаўную Думу прыгаварамі і наказамі патрабуючымі зямлі, аўтаноміі Беларусі, нацыяналізацыі школы і г. д. Урэшце БСГ ад працы вузка партыйнай перайшла да беларускай працы агульна-нацыянальнай. Пладамі гэткай яе працы пасьля „Mużyckaj Praudy“, „Гомону“ і „Свабоды“ — быў наступны беларускі часапіс „Наша Доля“ і пасьля „Наша Ніва“, а так-жа праца агулам на грунце беларускага выдавецтва. Праца-ж БСГ партыйная і рэвалюцыйная змушана была схавацца ў падпольле. І гэтак працавала БСГ аж да выбуху сусьветнае вайны і вялікай расейскай рэвалюцыі[1]).

Урэшце ў кастрычніку 1917 г. Бел. Соц. Грамада адбыла трэці зьезд. Тут ужо зазначыўся ў грамадаўцаў разлом. Левая часьць яе адышла ў камуністы. Рэшта-ж БСГ далей вяла сваю беларускую соцыяльную і палітычную працу на

---

1) А. Бурбіс — Беларуская Соцыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы („Беларусь“, Менск 1924, бач. 177—181). Малая Советская Энциклоп. 1930, т. I, Белоруссия.

карысьць беларускага народу, кладучы асаблівыя заслугі пры скліканьні ўсебеларускага Кангрэсу ў 1917 г., пры абвешчаньні 25.III.1918 г. незалежнасьці Беларусі і пры спробах зрэалізаваньня гэтай незалежнасьці.

Але тут мусім зазначыць, што гэтыя заслугі належаць ня ўсім грамадаўцам, а толькі лепшай, патрыотычнай часьці яе.

На пункце справы сувэрэннай незалежнасьці Беларусі ў улоньні БСГ йшоў заядлы бой, які ў тым-жа 1918 г. скончыўся падзелам яе на социялістаў дэмократаў, на социялістаў рэвалюцыянэраў і на социялістаў фэдэралістаў. Гэты падзел БСГ раўняўся яе ліквідацыі. Пасьля гэтага падзелу БСГ існаваць перастала.

Бліжэйшых прычын паўстаньня Бел. Соц. Грамады бязумоўна трэба шукаць прадусім у Багушэвіча, які сваімі беларускімі творамі, будзячымі беларускі народ да нацыянальнага жыцьця, мелі вялізарны ўплыў на тагочасную беларускую студэнскую моладзь. Уплыў гэты Багушэвіча прычыніўся ня толькі да паўстаньня „Грамады", але так-жа — і можа прадусім — надаў ёй беларускі нацыянальны характар.

Калі-ж узноў ідзе аб самую арганізацыю Бел. Соц. Грамады, дык так-жа важную — калі не рашучую — роль у яе лёсе адыграла ППС — Польская Партыя Социялістычная. Ось што аб гэтым піша сябра «Грамады», беларускі паэт Алесь Гарун (А. Прушынскі):

„Праца ППС была ні зусім чужою і для беларусаў. Шмат хто, асабліва з першых яе працаўнікоў, быў родам з нашага краю. У Вільні заўсёды была арганізацыя ППС і выходзіў партыйны орган, і ў ёй-жа адбыўся III зьезд партыі. *Яе працай быў паложаны пачатак беларускага социялістычнага руху* (падч. А. С.), бо працуючы сярод нашага работніцтва і сялянства, партыя старалася разбудзіць у іх нацыянальнае самапачуцьцё. Гэта рабілася як на моцы пастановы III зьезду „каб у стасунках з проціў урадавымі групамі другіх народаў... старацца будзіць у іх сэпаратыстычныя імкненьні" для супольнай барацьбы з царызмам, так і дзеля таго, што многія члены ППС — беларусы, толькі ў яе радах пачаўшы працу, задумаўшыся мо' у першы раз над нацыянальным пытаньнем, пачулі і пазналі, хто яны такія.

Частка гэтых, у лоне ППС пазнаўшых сябе социялістаў, увайшла потым у склад тых дзеячоў, каторымі заложана была першая беларуская социялістычная партыя „Беларуская Социялістычная Грамада"[1]).

Як бачым, уплыў ППС на БСГ быў вялікі. І гэта сусім зразумела: пачынальнікамі беларускага адраджэнскага руху, у першую чаргу, дзякуючы гістарычным і социяльным варункам беларускага жыцьця, былі беларусы каталікі, бела-

1) А. Прушынскі — 25-я гадаўшчына ППС. („Вольная Беларусь" № 36, 1917).

русы культурна зблiжаныя да палякоў. Вось-жа гэтым прадусiм, а так-жа опозыцыйнасьцяй да царскага ўраду адных i другiх, тлумачацца гэныя адносiны мiж ППС i БСГ.

Як паказвае сама назова, БСГ трымалася iдэолёгii соцыялiзму. Аднак мыляўся-б той, хто ў сябрах гэнай арганiзацыi жадаў-бы бачыць прававерных соцыялiстаў-марксыстаў. Быць можа, што ў думцы, у паглядах не адзiн сябра БСГ сапраўды гэткiм сябе лiчыў, але ў працы сваей гэтага не паказваў, бо й ня было дзе гэтага паказваць. Соцыялiзм сяброў БСГ выражаўся толькi ў тым, што многiя з iх былi беларускiмi рэвалюцыянэрамi, баролiся за соцыяльную справядлiвасьць i нацыянальныя правы сярод беларускага народу i ў зямельную сваю праграму ўводзiлi пункты ў дусе соцыяльнай дэмократыi. У сутнасьцi рэчы БСГ была беларускай патрыятычнай рэвалюцыйнай арганiзацыяй, а не соцыялiстычнай. Гэтак характэрызуюць яе Турук, Агурскi[1]) i iнш.

Але гэта ўсё мiж iншым. Нам тут iдзе аб аснаўную характэрыстыку Грамады, як беларускай палiтычна-вызвольнай партыi. Вось-жа трэба адцемiць, што ў гэтым сэнсе Грамада на першы пагляд бадай нiчым ня розьнiлася ад беларускiх народавольцаў-гоманцаў, бо-ж i яна, як i гэныя, баролася толькi за фэдэратыўную перабудову Расеi, толькi за аўтаномiю для Беларусi[2]). Гэтак сапраўды здаецца на першы пагляд, але калi да справы прыглядзiцца блiжэй, дык лёгка кiдаецца ў вочы мiж БСГ i гоманцамi вялiкая прынцыповая розьнiца. Розьнiцай тут зьяўляецца беларускi нацыянальны элемэнт Грамады. Не здарма-ж на рубяжы думак гоманцаў i БСГ стаў такi чалавек, як Фр. Багушэвiч. Зроджаны iм прынцып беларускай нацыянальнасьцi ўсей сiлай адбiўся i на думках, i на працы, i iдэолёгii БСГ, у якой беларуская нацыянальнасьць мела сапраўды прынцыповае значэньне.

Пэрыяд Бел. Соц. Грамады, такiм чынам, гэта новы вялiкi шаг уперад у беларускай палiтычна-вызвольнай думцы.

## § 4. „С в а б о д а“.

Пасьля «Muż. Praudy“ i „Гоману“, як ужо вышэй успаміналася, быў часапiс „Свабода“. Часапiс гэты шчыльна лу-

---

1) А. Турук — Белорусское движение, Москва 1921. Агурскi, прыточваная вышэй праца: 103—110.

2) Праўда, у вышэй прыточваным тут пiсьце праф. В. Iваноўскага спатыкаем цьверджаньне, што БСГ мела ўжо беларускiя палiтычна-нелалежнiцкiя iдэалы. „Думка аб сувэрэннай незалежнасьцi Беларусi— пiша праф. В. I. паўстала ў 1899—1900 г. сярод сяброў Бел. Рэвалюцыйнай, а пасьля Бел. Соц. Грамады. Пашырылася гэта думка аканчальна ў 1904—5 г.. Трэба сказаць, што напiралi на неабходнасьць памяшчэньня незалежнасьцi ў палiтычнай праграме „Грамады" тагдышнiя прыяцелi ППС-ы. У тым лiку нябожчык М. Сулькевiч i Язэп Пiлсудзкi.“ Усе iншыя аднак дадзеныя аб БСГ бачаць у ёй толькi iдэал Беларусi аўтаномнай у Расейскай фэдэрацыi. Надта аднак магчыма, што сярод сяброў БСГ былi ўжо i беларускiя незалежнiкi.

чыцца з дзейнасьцяй БСГ. Ведаем аб ім дужа мала. Вось-жа затым, што сваім зьместам „Свабода“ зьяўляецца ўжо, як і дзейнасьць БСГ, друкам беларускім нацыянальным, і што дзякуючы праф. В. Іваноўскаму маю аб ёй крыху нязнаных дагэтуль вестак, пасьвячаю ёй гэтых некалькі ўваг.

„Свабода“ паўстала сярод пецярбурскай беларускай моладзі ўзімку 1899—1900 г.[3]). Быў адбіты толькі адзін нумар з васьмёх бачынаў. Фармат вялікага (канцэлярскага) аркуша паперы. Нумар гэты „Свабоды“, пісаны адручна, адбіты быў на цыклёстылі (прылада,падобн.да сяньнешняга ротатара).

У рэдакцыі прымалі ўчасьце: Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч. Памагаў у выданьні так-жа Лявон Малецкі з Вільні, тады ППС. Першую бачыну вельмі прыгожа напісаў адрукі тады студэнт, а цяпер інж. архітэкт Рамуальд Мільлер, так-жа ППС,

Цыклёстыль быў куплены за грошы Вацлава Іваноўскага. Аддаў ён на гэта ўвесь свой летні заработак з практыкі. Памог консьпірацыйна гэту прыладу купіць М. Міхаловіч, ППС, тады студэнт, а цяпер прафэсар Варшаўскага Унівэрсытэту.

Далейшыя бачыны „Свабоды“ былі напісаны і адбіты ў Лябёдцы, Лідзкага пав., у двары бацькоў В. Іваноўскага. Пісаў іх адрукі Вінцук Валэйка з Лідчыны, тады гімназіст, а цяпер горны інжынер. Адбівалі два браты Іваноўскія: Тадэуш Іваноўскі, цяпер прафэсар унівэрсытэту ў Коўні і Вацлаў, а так-жа два браты Валэйкі з Лідчыны, апроч Вінцука. Адзін з іх — Антон Валэйка — цяпер інжынер тэхнолёг. Адбітых „Свабоды“ было 200 штук.

У зьмест гэтага часапісу між іншым уваходзілі: уступны артыкул на тэму палітычную; другі артыкул аб асобнасьці беларускага народу ў параўнаньні яго з народамі суседнімі. Быў так-жа і вось гэткі верш «Мужыцкая Доля»:

„Цяжка жыць, трудзіцца,
Калі няма долі,
Жыта не радзіцца
На мужыцкім полі.
З капы умалоту
Ня болей асьміны
І еш хлеб за работу,
Чорны хлеб з мякіны.

Прыдзе восень — трэба
Заплапіць падаткі,
А тут няма хлеба
І грошаў няхваткі.
І жыві, як знаеш,
З бяды выручайся;
Калі сілу маеш,
Долі дажыдайся.

Дзе-ж ты, мая доля,
Дзе-ж ты — адгукніся?!“

Аўтарам гэтага вершу быў хлапец з Радашкавіч, тады хвэльчар у калінкінскай бальніцы ў Пецярбурзе. Прозьвішча гэтага хлапца праф. В. Іваноўскі ўжо ня помніць.

3) Гэтак цьвердзіць праф. В. Іваноўскі; мне-ж здаецца, што „Свабода“ паўстала якімі двума гадамі пазьней. Магчыма, што ў 1899—1900 выдаваць „Свабоду“ паўстала толькі думка, зрэалізаваньне якой пазьней наступіла. (А. С.).

Дзеля консьпірацыі, пасьля адбіцьця нумару „Свабоды“, усю друкарскую прыладу Тадэуш Іваноўскі адвёз у Пецярбург, а часапіс В. Іваноўскі завёз у Варшаву, каб адтуль яе пашыраць пры помачы варшаўскіх беларусаў.

На няшчасьце, якраз у той час, старшы брат В. Іваноўскага, Юры Іваноўскі, ППС, тады інжынер у фабрыцы Гондтке ў Варшаве, быў арыштаваны. Жандары прышлі трэсьці і кватэру нашых бацькоў, дзе была сьвежа адбітая, бадай уся „Свабода“. Такім чынам бязмала ўвесь лік першага — і апошняга — нумару гэтага часапісу прапаў з прычыны гэнай рэвізіі.

Пасьля гэтага з уцалеўшых экзэмпляраў ведамы быў толькі адзін у Кіркарыхі, удавы па Адаме Кіркар, які быў рэдактарам „Kurjera Wileńskiego“.

На гэтым і скончылася выдавецкая справа «Свабоды»[1]), як аднэй з многіх праяваў беларускай нацыянальна-рэвалюцыйнай дзейнасьці Беларускай Социялістычнай Грамады.

## 25-cileććie biełaruskaha teatru.

Sioleta 25 lutaha minuła 25 hadoŭ ad pieršaha lehalnaha biełaruskaha pradstaŭleńnia, jakoje adbyłosia ŭ 1910 h. u Vilni. Stavili tady pjesu Krapiŭnickaha „Pa revizii“, a paśla vystupaŭ bieł. chor pad kiraŭnictvam L. Rahoŭskaha i balet I. Bujnickaha, jaki vielmi pryhoža vykanaŭ bieł. narodnyja tancy: Lavonichu, Juračku i Vierabja. Zacikaŭleńnie pradstaŭleńniem było vializarnaje. Zala była pierapoŭnienaja. Vopleskam dla artystaŭ nia było miery. — Hetaje pieršaje publičnaje vystupleńnie biełarusaŭ na scenie zrabiła vialikaje ŭražańnie i zapačatkavała arhanizacyju biełaruskaha teatru.

Ad taho času prajšło 25 hadoŭ i ciapier užo biełaruskaje pradstaŭleńnie nie navina, — jano ŭžo stałasia nieabchodnaj patrebaj u žyćci našaj moładzi, našaj vioski, našaha narodu. Siańnia my, choć nia vielmi bahaty, ale ŭsiož-taki majem svoj repertuar — svaje pjesy. Siańnia možam my chvalicca, što biełaruski teatr, kali jon moh raźvivacca ŭ Savieckaj Biełarusi da 1930 h., stajaŭ na vysokaj stupieni i jaho možna było biaz stydu pakazać kulturnym ludziam. Najbolš, jasna, pryčynilisia da raźvićcia biełaruskaha teatru pieradusim hałoŭnyja arhanizatary pieršaha bieł. pradstaŭleńnia: śv. p. A. Burbis, viedamy dyryhient i kampazytar L. Rahoŭski, słaŭny biełaruski tancor Ihnat Bujnicki, hram. Fr. Alachnovič, jaki praz uvieś čas ad 1910 h. až da siańnia, jak tolki moh, pracavaŭ i pracuje dla bieł. teatru i jak dramaturh, i jak režyser i jak artyst. Dalej, nia mała pracy pałažyli dla raźvićcia bieł. teatru: bieł. paet Hałubok, artyst F. Ždanovič, Biełaruskija Narodnyja Teatry ŭ Łatvii i Litvie, a tak-ža bieł. kulturnyja arhanizacyi, jak napr.

1) З лісту праф. В. Іваноўскага.

tut u Zach. Biełarusi: Bieł. Dramatyčnaja Studyja, Biełaruski Instytut Hasp. i Kultury, jakoha ab'jazdny teatr i hurtki ładzili na pravincyi bieł. pradstaŭleńni, TBŠ i inš.

Adnym, słovam sprava bieł. teatru naležna ŭzrasła. Inšaja reč, što ciapier teatr bieł. u BSSR słužyć spravie kamunistyčnaj i što my ciapier, napr. u Zach. Biełarusi, nia majem svajho stałaha teatru. —Heta vina nia naša, a tych abstavinaŭ, u jakich my apynulisia. — Zaraz ža možna adnak paciešycca, što moža ŭdasca ŭ Vilni sarhanizavać choć nievialiki biełaruski teatr, jaki choć krychu moh-by zadavalać patreby Biełarusaŭ.

Dziela ŭšanavańnia 25-cilećcia pieršaha lehalnaha bieł. pradstaŭleńnia, 17 sakavika sioleta ŭ Vilni ŭ zali Kanservatoryi adbyŭsia viečar, u časie jakoha byŭ hram. V. Hryškievičam pračytany adpaviedny referat, adyhrany 3-ci akt dramy Fr. Alachnoviča „Cieni", kamedyja ŭ 1 akcie „Čort i baba", a paśla piajaŭ chor i čatyry pary tancavali na scenie „Lavonichu".

Viečar ahułam zrabiŭ dobraje ŭražańnie, škada adno, što padbor pjesaŭ byŭ nieadpaviedny. Najlepš usim padabalisia bieł. pieśni ŭ mastackim vykanańni choru pad kiraŭnictvam hram. Šyrmy i „Lavonicha", jakaja dziakujučy hram. J. Chvorastu, choć raz sapraŭdy była vykanana paludzku.

Z pryjemnaściu treba adznačyć inicyjatyvu biełaruskaha studenctva, jakoje vusnami svajho pradstaŭnika pryvitała ŭ časie viečaru Fr. Alachnoviča, z pryčyny prypadajučych sioleta 25-tych uhodkaŭ jahonaje teatralnaje pracy, i hetym samym vyraziła ahulna-biełaruskuju volu. *J—k.*

---

## „Uśmichajecca jasna viasna!"

„Z lazurnych čystych niebiasoŭ
Pryvietna soniejka hladzić,
Va ŭsie kancy lje blesk łučoŭ,
Ciapło i śviet ziamli daryć.
I kliča k žyćciu ŭsio stvareńnie.
. . . . . . . . . . . . . .
JAKUB KOŁAS.

Ledź tolki krychu staje śnieh z paloŭ, a ŭžo „pierša žavaranka zapieła cicha ab viaśnie." Viarnułasia jana z ciopłych krajoŭ nia hledziačy na toje, što ŭ nas jašče zimna i ciažka ŭ takim časie dabyć požyŭ. Prylataje ŭžo ŭ m-cy lutym i časta śmierciaj musić prypłacić svoj paśpiech, bo ŭsie avadni jašče śpiać u schavankach; a kali śnieh časam znoŭ napadaje to, nia mohučy znajści navat niekalki travianistych ziarniat — hinie z hoładu i choładu. Jak-ža takaja ptuška saromić svaim pryviazańniem da rodnaha kraju šmat ludziej, katoryja znajšoŭšy ŭ čužynie lepšuju dolu, zabyvajuć ab svajej baćkaŭščynie.

Tymčasam druhi źviastun viasny, ale ŭ lesie — laščyna, jašče biazlistaja, a ŭžo akryvajecca zvisajučymi katkami słyčkavych kvietak, bahata pylačymi załatyja piarelniki, a jejnyja

taŭkačykavatyja pučki kvietak strojacca ŭ čyrvonyja vusiki. Heta jość peŭny znak nadychodziačaj viasny.

A voś prylacieli „mudryja“ špaki i kruciacca kala damoŭ, u harodach, sadoch, šukajučy čym pažyvicca. Biarozaŭki (ziaby) užo taksama raźviesialajuć svaim śpievam haji, lasy, a čajki z krykam „ki-vit, ki-vit“ latajuć nad sienažaciami. Vierby i asiny na pryvitańnie viasny raźvivajuć svaje sierabrystyja i čyrvonyja katki. A pad imi na ziamli, časta navat nieciarpliva prabiŭšysia praz śnieh, zaćvitajuć pieršyja viesnavyja kraski, jak śniažyčka, bialava, a paśla z fialetavymi kvietkami praleski.

Budzicca i avadziny śviet. I tak, lotajuć pieršyja prazimavanyja matyli, žuki, muchi i inšaja žamiara. A z kožnym dniom, kali soniejka štoraz bolš pryhravaje, to i ich bolš prybyvaje: vyłaziać laniva z pad kamieńniaŭ, mochu, z ščylin kary i inšych schavanak, dzie praspali ŭsiu srohuju zimu.

U druhoj pałavinie sakavika prylatajuć drazdy piajuny, a ŭreščie i busły, dzikija husi i inšyja. U hetym miesiacy možna ŭžo pabačyć žabu i rapuchu, katorych sonca zbudziła na nova da žyćcia. Vypaŭzajuć jany z schavanak i šukajuć vady, dzie-b možna było złažyć jaječki, katoryja zavuć skrekam. Razam z imi, prabudžajucca i vodnyja hadziny, vialikija-vorahi žabaŭ; ale ludziam nijakaj kryŭdy jany nia robiać Pad kaniec sakavika, abo ŭ krasaviku, kali jašče ciaplej, na padmokšych sienažaciach zaćvitaje žoŭty łatacień, kala ściežak—padbieł i stakrotki, u lesie—bieły zajačy mak, kanapielka i sasonka, dalej—rutki lesavyja, miadunka i žoŭtyja minuški. A nad hetym usim latajuć z viasiołym bzykam ŭžo „pracavitych pčołkaŭ hramadki“... a

„Z imi ŭ susiedztvie čmiel zuchavaty
Kvietku saboju kałyša,
Miod pje, marmoča—duža zaniaty,
Pacham viasioleńka dyša.“ (A. Ziaziula).

Šmat ŭžo pajaviłasia roznych avadnioŭ, ale i ich vorahi nia śpiać. I voś vypaŭzła i siadzić na kamiani jaščarka, dy cikajecca na muchi i kamary. A dniom u pavietry latajuć za žamiaroj niadaŭna prylacieŭšyja z ciopłych krajoŭ łastaŭki, viečaram — kazadoi i prazimavaŭšyja dzieści na vyškach kažany.

I voś „nadyšoŭ ciopły maj,“ zaćvili padśniežniki, a pa paloch, lasoch, sadoch i harodach raźlivajecca śpieŭ roznych ptušak, słaviučych dabro sonca. Zaćvitajuć drevy i kusty, ziamla pakryvajecca bahataju vopratkaj zieleni i kvietak, i ŭ kancy raśćvitaje bez — hety znak nadychodziačaha leta. I

„Zavarušyłasia ŭsio ŭ pryrodzie,
Žyvaści poŭna achvotnaj,
U lesie, na łuzie, u polii ŭ harodzie.“ (A. Ziaziula.)

. . . . . . . . . . . . .

*M. Karalenka.*

## Ci nie zašmat ŭžo ludziej na świecie?

U sučasnaj ekanamičnaj navucy zakaraniŭsia škadlivy „zababon", pavodle katoraha hałoŭnaju pryčynaju kryzysaŭ i nendzy značnaj častki nasielnictva jość nadmiernaja kolkaść ludziej.

Hetakaha pahladu, vykazanaha jašče ŭ pačatku 18 stah. anhlikanskim pastaram Maltusam, trymaŭsia i viedamy francuski ekanamist Karł Gide (čytaj — ž i d) katory, miž inšym, kaža tak: „Jak projdzie jašče adzin viek, to budzie zaniata apošniaja piadzia volnaj ziamli, zasiejeny astatni zahon i z hetaj pary ŭsio ludztva zmušana budzie zadavolicca 13 miljardami hektaraŭ svajoj spadčyny, nia mohučy navat spadziavacca bolš na novyja zdabyčy".—Vučonyja ekanamisty z maltuzijanskimi „ŭchiłami," karystajučysia statystyčnymi dadzienymi, starajucca dakazać, što pradukcyja materyjalnych srodkaŭ nia moža paśpieć za rostam nasielnictva.

Štodzień radzicca na ŭsiej ziamli 150 tys. čałaviek, a ŭmiraje 100 tysiač. Hetakim čynam, kažuć jany, štodnia akazvajecca 50 tys. lišnich ludziej, ci kala 18 miljonaŭ u hod. Žyćcio ludzkaści, ćvierdziać malituzijancy, budzie jści da horšaha, bo naturalnyja bahaćci ziamli nia mohuć dać palepšańnia, a navukovyja i techničnyja vynachady i ŭdaskanaleńni nie paśpievajuć iści „ŭ nahu" z rostam nasielnictva. Niekatoryja z sučasnych „nova-maltuzijancaŭ," jak naprykład anhlijski piśmieńnik Wells (*Uels*), nia bačać inšaha vychadu, jak tolki praviadzieńnie ŭ žyćcio roznych mierapryjemstvaŭ, ahraničvajučych pryrost nasielnictva.

Voś-ža z padobnaha rodu razvažańniami pahadzicca nia možna.

Kali my majem ciapier miljanovyja armii biespracoŭnych, to heta śviedčyć nie pra toje, što jany lišnija ludzi, a tolki pra niedaskanalnaść sučasnaha buržuazna-kapitalistyčnaha ustroju.

Fakt „liški" nasielnictva dakazvaje nieabchodnaść pierachodu na inšuju, bolš racyjanalnuju systemu haspadaravańnia.

Akazvajecca adnak, što navat pry isnujučym socyjalna-ekanamičnym ładzie, kab nie stajali na pieraškodzie pryčyny palityčnyja, prynamsi u bližejšuju budučyniu niama padstavaŭ da strachu pierad „liškaj" nasielnictva.

Hetak ćvierdzić, miž inšym, niamiecki heohraf praf. Albert Penk, pavodle abrachunkaŭ jakoha, a taksama inšych vučonych, naša planeta, majučaja ciapier kala 2 miljardaŭ nasielnictva, mahła-b prakarmić až 8 miljardaŭ asob.

Roznyja čaści śvietu znachodziacca z henaha pohladu u roznych umovach. Tak, naprykład, Eŭropa, majučaja ciapier kala 490 mil. ludziej, možna prakarmić najbolš 560 mil. čała-

viek. U Azii moža pražyć 1.700 miljonaŭ asob, u toj čas jak ciapier tam žyvie ahułam kala 1030 miljonaŭ. U hetaj čaści śvietu najbolš husta nasieleny Kitaj, dzie, naprykład, u ŭschodnich pravincyjach prypadaje ad 150 da 300 čałaviek na 1 kv. kilometr. Najbolšaja huščynia nahladajecca u Kijanhsu (dzie znachodziacca ..anchaj i Nankin), dzie žyvie 340 ludziej na 1 kv. kilometr.

U siarednim-ža Kitai na 1 kv. klm. prypadaje 39 čałavik.

Ahramadnuju kolkaść ludziej moža pryniać Ameryka, asabliva Paŭdzionnaja, nasielnictva katoraj mahło-b dajści da 1200 miljonaŭ čałaviek. Paŭnočnaja Ameryka, naličvajučaja ciapier kala 150 mil. asob., mahła-b prakarmić 1100 miljonaŭ.

Naplapiej, adnak, stajać spravy u Afrycy i Aŭstralii.

Afryka, dzie naličvajecca ciapier usiaho tolki 140 mil. nasielnictva, mahła-b dać vyžyŭleńnie 2300 miljonam asobam, a Aŭstralija, majučaja ŭžo 9 mil. — 450 miljonam asob.

Hetakim čynam my bačym, što ŭ toj čas, jak u Eŭropie kolkaść žycharoŭ asiahnuła 80 proc. maksymalnaj vieličyni, u Afrycy heta kolkaść dachodzić ŭžo tolki da 7 proc., a ŭ Aŭstralii — da 2 proc.

Treba ŭziać jašče pad uvahu, što pry hetych abrachunkach my ličymsia tolki z sučasnym stanam techniki, katoraja z kožnym hodam daskanalicca, pavyšajučy vydajnaść ludzkaj pracy jak u promyśle, tak i ŭ ziemlarobstvie.

Pryviedzienyja vyšej dadzienyja musiać pierakanać nas, što razvažańni maltuzijancaŭ nia majuć ćviordych padstaŭ.

Pahlad Maltusa, što ŭ toj čas, jak nasielnictva pavialičvajecca ŭ heometryčnaj prohresii, spažyŭnyja środki — u arytmetyčnaj,—źjaviŭsia na śviecie bolš jak 100 hod tamu nazad, kali nasielnictva Eŭropy było ŭ niekalki razoŭ mienšaje ŭ paraŭnańni z sučasnaju kolkaściu i kali inšyja čaści śvietu byli amal biazludnymi.

Kali-b pahlad Maltusa byŭ pravilnym, to ŭžo ciapier nastupiŭ-by kaniec ludzkoha rodu ad hoładu. Hetaha, adnak, my nia tolki nia bačym, ale nahladajem nadpradukcyju tavaraŭ i spažyŭnych środkaŭ, katoryja źništožvajucca kapitalistami u metach pavyšeńnia ichnich cenaŭ. Kryzysy u pramysłovaści i ziemlarobstvie, pryvodziučyja, miž inšym, da taho, što tavary nie znachodziać zbytu, źjaŭlajucca najlepšym dokazam niedaskanalnaści sučasnaj systemy haspadarki.

U toj samy čas, jak my majem na rynkach h. zv. nadpradukcyju tavaraŭ, faktyčna jość ahramadny niedachop ich.

Hety niedachop nie źjaŭlajecca vynikam źmianšeńnia pradukcyjnych siłaŭ ziamli, a isnuje ŭ kapitalistyčnaj haspadarcy tolki dziakujučy jaje nieracyjanalnaści (nieŭparadkavańniu). U mieru taho, jak pavialičvajecca nasielnictva, — pavinna mianiacca i systema haspadaravańnia, pavialičvajučy i ŭsio inšaje, patrebnaje dla ludzkoj hramady. F. A.

# Listy.

## Pradstaŭleńnie.

v. Kłočkava, Bienickaje voł., Maładečanskaha pav. Apošnim časam naładzić čysta biełaruskaje pradstaŭleńnie na vioscy vielmi ciažka. Dziela hetaha ciapier ładziać pieravažna pradstaŭleńni biełaruska-polskija. Takoje pradstaŭleńnie, dziakujučy starańniam našaj moładzi i miascovaje vučycielki adbyłosia 17 lutaha sioleta i ŭ nas. Z biełaruskich pjes stavili „Zaručyny Paŭlinki", u jakoj najlepš ihrali Nasta Vial—rol Paŭliŭki, L. Jarmakovič—Ściapana i Aksinia Vial— Alžbiety, nie havoračy ŭžo ab kiraŭniku biełaruskaje častki pradstaŭleńnia, mastaku roznaha štukarstva, J. Siarhijeviču, jaki ihraŭ rol Jakima. Dobra taksama vykanali svaje roli Ulina Vial — Adelka, Alesia Kapciužanka — Ahata i Janka Baran—Pranciś.

Paśla pradstaŭleńnia adbylisia skoki, u časie katorych našy artysty-amatary, paadziavaŭšysia ŭ pryhožuju biełaruskuju nacyjanalnuju vopratku, vielmi pryhoža tancavali „Lavonichu."

Biazumoŭna ŭsim im naležycca vialikaja padziaka i čeść. Pažadana, kab naša moładź i dalej pracavała na karyść biełaruskaje spravy.

Svoj.

## Што трэба ведаць і рабіць.

в. Каранды, Крэўскае вол., Ашмянскага пав. Жыхары нашае вёскі ўсе беларусы і ўжо нават нацыянальна сьведамыя. Вось-жа ворагам нашым захацелася нас сполёнізаваць і з гэтай мэтай яны імкнуцца загарнуць у свае рукі нашу моладзь, уцягваючы яе ў польскую арганізацыю „Strzelec." Найбольш каля гэтага працуе вучыцель з Вішнёўкі Ф. Сла—цкі.

Дзеля таго, што ўсё ж-такі ў нашай старонцы ёсьць і людзі слабейшыя, якія ня маюць сіл адагнаць ад сябе агітатараў і йдуць у чужыя нам варожыя арганізацыі, уважаю за свой абавязак папярэдзіць усіх публічна, што з „strzelcami" нам не па дарозе, бо ён нам ніякае карысьці не прынясе. Нам трэба залажыць гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ды супольна і саматужна працаваць на карысьць свайго беларускага народу.

Вясковы

---

## БРАТУ.

Бываюць дні цямней начы,
Жыцьцё—цясьней вязьніцы,—
Тады ня жалься, лепш маўчы,
Свой крыж нясі ў тайніцы.

Сабе падмогі ня шукай
Ты у слабеючых людзей —
Жыцьцё Хрыста ты ўспамінай,
Ён сілу дасьць душы тваей.

І толькі Ён нам можа даць
Моц крыж да мэты данясьці,
А больш няма нам дзе шукаць.
Сьвятла ў бязпросьветнай начы.

В. Катовіч.

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Суд і канфіската.** 15 сакавіка сёлета Віленскі Гарадзкі Суд разглядаў справу рэдактара „Шляху Моладзі“ Язэпа Найдзюка, абвінавачанага за зьмяшчэньне ў № 9 „Шл. Мол.“ двух вершаў і карэспандэнцыі, якія былі сканфіскаваны. Суд выслухаўшы выясьненьні абвінавачанага пастанавіў перaслухаць у гэтай справе сьведкаў і справу адлажыў. — 6-га сакавіка сёлета Гарадзкое Віл. Старaства сканфіскавала № 1 часапісу бел. нац.-сацыялістаў „Новы Шлях.“

**Не легалізуюць гурткоў ВІГіК.** Наваградзкае Старaства йзноў не залегалізавала двух гурткоў Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, гэтым разам у в. в. Мондзін і Вярашчычах. Ашмянскае Старaства нядаўна зачыніла гурток БІГіК. у Мураванай Ашмянцы. Доказы „свабоды“ беларускае культурнае працы ў сучаснай Польшчы, як бачым, павялічваюцца...

**БІГіК.** — 5-га сакавіка сёлета адбыўся гадавы сход Віл. Аддзелу Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры, на якім пасьля справаздачы з дзейнасьці за 1934 г. уступаючага ўраду і па выказаньні яму абсолютoрыюму, выбраны новы ўрад, у склад якога ўвайшлі: інж. А. Клімовіч, В. Войтанка, Ул. Казлоўскі, Я. Найдзюк і А. Яцына. — 31.IV. сёл. мае адбыцца агульны гадавы сход Рады Інстытуту.

**Незацьверджаньне канфіскаты час. „Калосьсе“ кн. 1.** 23 сакавіка Віл. Гарадзк. Старaства зьвярнула рэдакцыі „Калосьсе“ сканфіскаваныя экзэмпляры першае кніжкі „Калосься,“ бо Акружны Суд канфіскаты гэтага часапісу не зацьвердзіў. — Пры гэтым падаём да агульнага ведама, што ўжо пачаўся друк кніжкі другое час. „Калосьсе.“

**Новыя беларускія песьні ў апрацаваньні А. Т. Грэчанінава.** Даведваемся, што ведамы кампазытар А. Т. Грэчанінаў, які жыве цяпер у Парыжы і мае ў хуткім часе адведаць Вільню, апрацаваў для солёвага сьпеву (для аднаго голасу) з акампаніямэнтам раяля наступныя беларускія народныя песьні: 1) „Ой рана, рана куры запелі“, 2) „Ува Ярдані ціхая вада стаяла“(абедзьве Калядкі з Пружаншчыны), 3) „Конь бяжыць, зямля дрыжыць“ (з Ваўкавыскага пав.) і 4) „Ой не вылятай сівая зязюля з куточка сенажаці“ (васеньняя песьня з Пружаншчыны).

**Сход сяброў Б.С.С.** 17 сакавіка сёл. адбыўся агульны гадавы сход сяброў Беларускага Студэнскага Саюзу, на якім па справаздачы ўступаючага ўраду і рэвізыйнае камісіі, ды па выражэньні для ўраду абсолютoрыюму і падзякі, выбрана новы ўрад, у які ўвайшлі: М. Шчорс — старшыня, М. Якімец — віцэ-старшыня, А. Дасюкевіч — сэкратар, П. За-

сім — скарбнік і С. Сарока — гаспадар і рэвізыйную камісію ў складзе: Я. Бурак — старшыня, Т. Мацьвеявішка і В. Войтанка — сябры.

**З выдавецкае нівы.** Нядаўна выйшаў з друку і прадаецца ў Вільні і на правінцыі ўва ўсіх кнігарнях і прадаўцоў кніжак беларускі флірт, уложаны грам. Ст. Ст. п. наз. „Flirt dla ŭsich". Мае ён 48 картак і каштуе усяго 60 гр. Зьмест бел. флірту багацейшы і лепшы ад польскага і трэба спадзявацца, што беларусы—ахвотнікі флірту — будуць яго купляць. — Апроч таго нядаўна выйшаў з друку дадатак да каталёгу беларускіх кніжак, які, як і сам каталёг, на жаданьне высылае дарма Беларуская Кнігарня „Пагоня" у Вільні, вул. Завальная № 1.

**Беларусы ў Латвіі.** — 24.II. сёлета у І-шай беларускай пачаткавай школе ў Рызе выдатны бел. дзеяч і б. дырэктар беларускае гімназіі ў Дзьвінску грам. С. Сахараў прачытаў лекцыю аб шкоднасьці алькаголю. Пасьля лекцыі вучні дэклямавалі вершы і пад кіраўніцтвам вучыцеля Я. Каяла прыгожа пялі беларускія песьні, сярод якіх з асаблівым пачуцьцём была выканана песьня зьмешчана ў № 1 „Шл. Моладзі"—„Хай нам жыве Беларусь дарагая". —2.III. Рыжская беларуская гімназія ладзіла Канцэрт-вечарыну, у часе якой выступаў хор пад кіраўніцтвам грам. Грыўскага і салістка грам. Бедрава. —3.III. 2 беларуская пачаткавая школа у Рызе ладзіла спэктакль-вечарыну, у часе якой адыграна была п'еска „У лясным гушчары," а пасьля вучні дэклямавалі бел. вершы, а хор пад кіраўніцтвам Я. Кудраўцава ўдала прапяяў некалькі песьняў.

— 6 студзеня сёлета ў Рызе адбыўся агульны гадавы сход сяброў Т-ва Беларускіх вучыцялёў, на якім была: 1) прынята да ведама справаздача з дзейнасьці ўступаючага ўраду за 1934 г., 2) зацьверджаны бюджэт на 1935 г. і 3) выбраны новы ўрад Т-ва, у склад якога ўвайшлі: С. Сахараў, К. Езавітаў, Г. Плыгаўка, Ф. Клагіш, і К. Мяжэцкі, і рэвізыйная камісія у складзе: Я. Кудраўцаў, Л. Тэтар і Я. Камаржынскі. Білянс Т-ва за 1934 г. абымаў суму 18,548,97 латаў. Уложаны-ж бюджэт на 1935 г. прадбачыць суму 19.700 латаў. Прыход Т-ва складаецца прадусім з сяброўскіх складак, ападаткаваньня сяброў, якое часта сягае да 10 проц. іхніх заработкаў, дапамогі ўраду і самаўрадаў, ды з розных імпрэзаў, ладжаных таварыствам. З сабраных сумаў, Т-ва, дбаючы аб асьвету бел. моладзі, утрымоўвае рыжскую беларускую гімназію, пачаткавыя школы і дзіцячы садок. Асабліва энэргічна працуе ў Т-ве грам. К. Еза-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

вітаў, якому за гэта сход выразіў падзяку. Агулам трэба сказаць, што праца Т-ва і ўсіх бел. вучыцялёў у Латвіі вялікая, ахвярная і вельмі карысная для беларускага народу. За гэта-ж ім усім чэсьць і слава!

## Usiačyna.

**Zbrojacca.** Apošnim časam usie dziaržavy, jak maha, zbrojacca. Bačačy heta Niemcy, katorym Versalski Traktat zbrajeńnie vielmi mocna ahraničyŭ, 16 h. m. aficyjalna zajavili, što jany taksama buduć zbroicca i ŭžo sarhanizavali bajavyja latunskija addziely, dy prystupili da arhanizacyi stałaje armii, jakaja maje mieć 500.000 žaŭnieraŭ. Apróč hetaha Niemcy arhanizujuć bajavyja siły na mory. Prociŭ zbrajeńniaŭ Niamieččyny pratestujuć Francyja, Italija i inš. dziaržavy i sprava heta budzie razhladacca na nadzvyčajnaj sesii Lihi Narodaŭ, jakaja adbudziecca ŭ pałovie krasavika sioleta. Zbrajeńnie Niamieččyny nahaniaje vielmi mnoha strachu dla Savietaŭ.

**Kryvavyja padziei.** Na pačatku sakavika sioleta adbyvalisia kryvavyja padziei ŭ Hrecyi, dzie pavadyry hreckaha narodu zmahalisia miž saboj za ŭładu. Pieramoh dasiulešni ŭrad, a revalucyjanery, na čale z svaim pavadyrom Venizelosam, paŭciakali zahranicu.

**Pryniaćcie polskaje konstytucyi.** 23 sakavika sioleta polski Sojm, hałasami pasłoŭ z klubu B.B., pryniaŭ akančalny tekst polskaje konstytucyi z papraŭkami Senatu.

**62.000 katastrofaŭ.** U minułym hodzie ŭ Savietach zdaryłasia na čyhuncy 62.000 katastrofaŭ, padčas jakich zhinuła niekalki sot asob i tysiačy ludziej było raniena. U hetych katastrofach źniščyłasia 7.000 paravozaŭ i bolš 64.000 vahonaŭ.

**Skolki žydoŭ u Polskaj Kamunistyčnaj Partyi?** Hazety pišuć, što pavodle statystyki, u Polskaj Kamunistyčnaj Partyi jość 98 pracentaŭ žydoŭ. Kali tak, dyk u Biełaruskaj Kam. Partyi ich budzie chiba 99 prac.; a heta ŭžo vyrazna havora ab jaje niebiełaruskaści. —Dyk ci-ž možna ad takoj partyi spadziavacca čahoś dobraha dla Biełarusaŭ.

**Uhodki naradzinaŭ vialikich kampazytaraŭ.** — 22 lutaha sioleta minuła 125 hadoŭ ad naradžeńnia słaŭnaha muzyki Fryderyka Chopin'a (vyhavarvaj *Šopena*), baćka jakoha byŭ francuz, a matka polka. F. Chopin—choć žyŭ nia doŭha (40 hadoŭ), ale dziakujučy tamu, što tvaryć pačaŭ z dziciačych hadoŭ, dyk napisaŭ kala 200 roznych tvoraŭ, jakija viedamy ŭsiamu kulturnamu śvietu.

— 21 sakavika sioleta minuła 250 hadoŭ ad dnia naradzinaŭ Jana Sebastyjana Bacha, najvialikšaha niamieckaha kampazytara z haliny kaścielnaje muzyki.

**Vyskačyŭ z samalotu z vyšyni 6.800 metraŭ.** Saviecki latun Kajetanavu ŭdałosia ščaśliva vyskačyć i apuścicca na ziamlu pry pomačy spadachronu, ale biaz tlenavaha aparatu, z samalotu z vyšyni 6.800 metraŭ.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**М. Машары і В. Катовічу.** Атрымалі, дзякуем. Прывет!

**А. Жуку.** Атрымалі, дзякуем, просьбу споўнілі.

**В. К—чуку.** Вашы вершы зусім слабыя і да друку не падходзяць. Радзім Вам больш чытаць беларускія кніжкі.

**Юл. Сяргіевічу.** Атрымалі, дзякуем, як бачыце, ужо часткова карыстаем. На сцэне можаце паставіць яшчэ наступныя п'есы: „Pieršyja łastaŭki", „Ameryka ŭ łaźni", „Čort i baba", „Pasłaniec", „Konski partret", Пакой у наймы" ды інш.

**Baŭtručonku.** Karespandencyju atrymali, dziakujem, moža kali-niebudź nadrukujem.

**A. Niaŭdałamu z Novaj Myšy.** Vaš vierš da druku nie padchodzić, ale zdolnaści da piara ŭ Vas jość i ich treba raźvivać, čytajučy pryhožuju litaraturu.

**B. Ra—sie.** Piśmy atrymali, dziakujem za ŭvahi. Apišecie žyćcio vašaje moładzi.

**Вяскоўваму.** За прысланыя матарыялы і ўвагі шчыра дзякуем, — будзем карыстаць. Просьбу споўнілі.

**М. Ом—ко.** За прысланае дзякуем і чакаем абяцанага.

**А. Міхаль—ку.** „Шл. Мол" будзем высылаць „Гісторыю Беларусі" вышлем тады, калі Вы хоць часткова зробіце тое, аб чым пішаце. Аб „ляўрэатах Ноб'ля" мы ўжо пісалі некалькі раз і дзеля гэтага ўважаем беспатрэбным усьцяж гэта паўтараць.

**Я. Вількоўшчыку.** Шчырая падзяка і найлепшыя пажаданьні.

## КУТОК РАЗРЫВАК.

**Разьвязаньне загадкі № 5.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 15 | 13 | 4 | 2 |
| 1 | 3 | 16 | 14 |
| 8 | 6 | 9 | 11 |
| 10 | 12 | 5 | 7 |

**Арытмэтычная загадка № 6**

*падаў М. Ом—ко.*



У паданыя 9 клетачак упісаць лічбы ад 1 да 9так,каб сума іх уніз, ушыркі і наукаскі выходзіла 15.

За разьвязаньне круцігалоўкі № 5 нагарода ў форме кніжкі п. н. „Казкіжыцьця" Я. Коласа, выпала М. Амеляшцы.